*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# купіць кватэру

**А чаму б і не памарыць? — вырашыў я, атрымаўшы такое заданне. Можа, і на маю вуліцу загляне Свята ў выглядзе вялікага мяшка, набітага грашыма. Для тых шчасліўцаў, на якіх ужо «напалі» полчышчы зялёных «баксюкоў», мой аповяд.**

Што ж трэба рабіць, калі вы раптам сталі ну вельмі багатым? Па-першае, не варта кідацца з кута ў кут і пытацца ў кожнага сустрэчнага, ці не прадае ён кватэру. Не вельмі разлічвайце пры вырашэнні гэтага пытання і на такія газеты, як «З першых рук» і розныя рэкламныя дадаткі — ад такой вялікай колькасці разнастайных прапаноў могуць проста разбегчыся вочы. У першую чаргу трэба вырашыць, у якім раёне будзе знаходзіцца ваша новая кватэра.

Інфармацыяй для разважання для пакупніка з'яўляецца факт значнага даражання кватэр у Мінску ў мікрараёнах Сухарава і Малінаўка. Кошт паслуг будаўнічых арганізацый у сярэдзіне мінулага года ўшчыльную наблізіўся да рынкавых цэн на жыллё. Рост цэн, у выніку, за другое паўгоддзе 1995 года склаў каля 20—25 працэнтаў.

На такое значнае павышэнне цэн паўплывалі і аб'ектыўныя прычыны — гэта паляпшэнне транспартных камунікацый, пашырэнне сеткі прадпрыемстваў сервісу і магазінаў. У сувязі з ростам цэн на жыллё ў Сухараве і Малінаўцы адбылося павышэнне цэнавай планкі ў прадаўцоў кватэр у іншых раёнах, размешчаных на ўскраінах горада. Трэба адзначыць пэўную цікавасць да Фрунзенскага раёна, асабліва пасля адкрыцця дзвюх новых станцый другой лініі метро. Ажывіўся попыт на мінскую «спальню» — Чыжоўку. Назіраючы за ростам цэн на кватэры ўскраін-новабудоўляў, патэнцыяльныя пакупнікі ўспомнілі пра чыжоўскія перавагі: раён, што называецца, абжыты, тэлефанізаваны, з будучымі перспектывамі блізкасці метро (аўтазавод). У экалагічна неспрыяльных і аддаленых Дражні, Сляпянцы і Шабанах «хату» можна набыць проста за «бесцань». Што датычыць цэнтра горада, то тут попыт на кватэры крыху знізіўся. Гэта тлумачыцца тым, што ў цэнтральных сектарах вялікая доля даволі старых дамоў. А ўвогуле цэны на кватэры ў бліжэйшы час зніжацца не будуць. Хутчэй за ўсё стабільнымі застануцца цэны ў цэнтры горада і будзе працягвацца далейшы рост цэн на стандартнае жыллё гарадскіх ускраін.

Вось так. Калі ў вас ўжо ўсё гатова, грошы ў рукі і — шчаслівай пакупкі.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*СВЯТА Ў ВАШУ ХАТУ*

# Святыя Грамніцы свечкі сукаюць

*А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,*
*Зіма з летам стрэлася, стрэлася...*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы.*

Грамніцы, або Стрэчанне (Срэчанне), адзначаюцца беларусамі 15 лютага па новым стылі. Гэта першае свята ў гонар надыходзячай вясны. Спявалася першая вяснянка:

*Зіма з летам сустракалася,*
*Пра здароўейка запыталася.*

Назва свята — Стрэчанне — і сведчыць аб сустрэчы дзвюх пор года. Іншая назва — Грамніцы — пайшла ад звычаю свяціць у царкве свечкі, якія людзі будуць запальваць падчас навальніц. Абрад з'явіўся пры уніяцтве. Уніяцкая царква ў сваю чаргу пераняла яго ад заходняй царквы. Як лічаць некаторыя даследчыкі, гэта адбылося пры папе рымскім Сергіі, які налажыў асаблівы чын благаславення грамнічных свечак у процідзеянне язычніцкім святкаванням, якія пад назвай Фебруалій наладжваліся напярэдадні першых дзён лютага ў гонар Фебра, Празерпіны і іншых багоў і суправаджаліся падпальваннем факелаў.

*Святыя Грамніцы свечкі сукаюць,*
*Свечкі сукаюць, на прыстаў стаўляюць.*

На Грамніцы беларусы выпальвалі крыжы на будынках, высмальвалі крыжамі валасы на галовах дзетак, бо ўсё гэта лічылася добрымі сродкамі супраць д'ябальскай сілы. Для гэтых жа мэтаў выкарыстоўваліся і грамнічныя свечкі: іх вешалі ля ўваходу ў хату і хлеў; запальвалі з вераю ў дапамогу ў час навальніц ці бур, іх давалі ў рукі нябожчыку, каб полымя асвяціла шлях у іншы свет.

У сялянскім быце па надвор'ю на Стрэчанне мяркуюць, якім будзе надыходзячае лета, ураджай: раніцай ідзе снег — хлеб будзе ранні; завіруха замяце дарогу — не будзе корму для скаціны. Ці вось такая гарэзлівая, са смакам безнадзейнасці, прымаўка: «Як на Грамніцы адліга — з ураджаю будзе хвіга».

Напрыканцы адзначым, што Стрэчанне ў гэтым годзе прыпадае на чацвер дзевятага передвелікоднага тыдня. Наступны, восьмы тыдзень — Масленіца.

**Ганна ГАЎРЫЛЬЧЫК.**

*А ЯШЧЭ БЫЎ ВЫПАДАК...*

# Чаму павярнуў агонь?

***Не так ужо рэдка даводзіцца чуць пра выпадкі, якія проста немагчыма растлумачыць з пункту гледжання матэрыялістаў.***

***Напрыклад такі, калі ў час землетрусу жанчына падымала кавалак сцяны, што абвалілася, які быў бы не пад сілу чатыром дзецюкам, каб вызваліць з-пад яго сваё дзіця. У гэтыя імгненні, прыкладаючы звышчалавечыя намаганні, гаротная маці горача маліла Бога аб дапамозе. І ён, відаць, дапамог.***

Але адна справа — прачытаць у газеце пра той ці іншы выпадак: тут можна верыць і не верыць (мала што могуць выдумаюць некаторыя журналісты!). І зусім іншая, калі сам сутыкнешся з незвычайнай з'явай ці пачуеш пра яе ад добра знаёмых табе людзей.

На маёй радзіме, у Смілавічах, што ў трыццаці кіламетрах ад Мінска, адбыўся выпадак, пра які мне расказаў мясцовы жыхар Аляксандр Іванавіч Халадзінскі. Я пайшоў па ўказанаму ім адрасу ў «вучгас» (так завуць мікраён у Смілавічах) і на свае вочы ўбачыў абгарэлы барак метраў дваццаць у даўжыню, над якім сіратліва тырчалі восем закураных пячных комінаў, бо дах згарэў. І вось дзіва — праз вуліцу, метрах у шасці ад яго, стаіць другі барак, крыху меншы, у якім жывуць чатыры сям'і, і яго агонь не крануў, хоць над суседнім бушаваў на ўсю сваю моц.

Як высветлілася, у тую перадnавагоднюю ноч паштальёнка Марыя Казіміраўна Стыдаль пачула нейкі гул і крыкі. Ускочыла з ложка, глянула ў акно і абамлела: было відна, як днём. Выбегла на вуліцу з сынам Васілём і ўбачыла, што гарыць суседні дом. Дзве пажарныя машыны, якія прымчаліся, вылілі ваду і паспяшаліся за новай порцыяй — не вельмі проста ўтаймаваць такое полымя! Языкі агню пацягнуліся ўжо да іх дома: вось-вось успыхне. Марыя Казіміраўна кінулася ў сваю кватэру, схапіла абраз Божай Маці і пабегла вакол дома, акрапляючы пры гэтым яго святой вадой, якую напярэдадні ўзяла ў царкве. Абегла барак тры разы і адбылося неверагоднае — агонь пачаў паварочваць у адваротны бок. Дом не загарэўся, хоць і стаяў побач.

Магчыма, нехта скажа: маўляў, вецер выпадкова памяняў напрамак. Выпадкова?

**Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ.**

*ГРОШЫ*

# ГЭТА ГОРКАЕ СЛОВА «ВАЛЮТА»

ГРАМАДЗЯНІН ЛАТВІІ, а па сутнасці беларус, які некалі выехаў у суседнюю рэспубліку, шукаючы лепшай долі, вырашыў у нядзельны дзень наведаць бацьку. Дарога, калі на ўласным аўтамабілі, недалёкая. Перасек мяжу і неўзабаве быў у Паставах. Адсюль да роднай вёскі ўсяго дваццаць кіламетраў. Але не разлічыў, бензіну не хапіла. У кішэні грамадзяніна былі толькі латы.

На аўтазаправачнай станцыі запраўляць аўтамашыну за такія грошы адмовіліся.

— А дзе ж абмяняць?

— Банкі нашы не працуюць, ды і не прымаюць там латаў. Паспрабуйце на кірмашы.

Неўзабаве латышскі беларус ужо хадзіў па кірмашовых радах, задаючы адно і тое ж пытанне: «Латы абмяняеце?»

Праз нейкую гадзіну ён усё-такі натрапіў на мужчыну, які згадзіўся абмяняць.

І толькі беларускія рублі сустрэліся з латамі, як да ўдзельнікаў незаконнай валютнай аперацыі падышлі супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. Быў складзены пратакол. Абодвум пагражае штраф ад 20 да 50 мінімальных заработных плат.

***

Гасцюючы ў бацькі, сын, работнік сібірскіх нафтавых промыслаў, пакінуў у падарунак некалькі соцень тысяч расійскіх рублёў. Ляжалі яны пад настольнікам некалькі месяцаў. А потым надумаўся чалавек прыдбаць пару парасят. Бульбы застаецца многа, ды і мука ёсць. Падлічылі з гаспадыняй тое, што адрывалі ад небагатых пенсій, — не хапае. «А ў нас жа ёсць сынавы?»— «Яны нейкія не тыя, расійскія».

Суседзі растлумачылі, што не трэба турбавацца. На кірмашы можна лёгка абмяняць гэтыя «не свае» на свае. Пахадзі, папытай, самі набягуць.

На кірмашы дзядзька нагледзеў пару віславухіх, дамовіўся наконт цаны. Доўга падлічваў, колькі трэба памяняць расійскіх, каб хапіла. Курс (нейкае нязвыклае слова) яму сказаў прадавец парасят. І вось дзядзька пайшоў па кірмашы, шукаючы абмену. І знайшоў.

Малады хлопец дастаў з кішэні пачак звычных беларускіх пяцітысячных, дзядзька выцягнуў усе свае расійскія, стаў адлічваць тую суму, якую назваў яму малады пакупнік. Ну, зразумела, падаспела міліцыя. Адабралі ўсе грошы, прымусілі недзе падпісацца. Вярнуўся дзядзька дадому без парасят і без сынавага падарунка. А самае дзіўнае для яго, што паабяцалі яшчэ выклікаць на суд і там давядзецца плаціць вялікі штраф. «За што?» — разводзіць рукамі чалавек.

***

Не маладая, але яшчэ моцная жанчына, застаўшыся без гаспадара, працягвала «цягнуць» немалую гаспадарку — карова, свінні, авечкі. Ад апошніх пакрыху збаўлялася — усё-такі адна. І вось у суботу сусед дапамог зарэзаць адну з авечак, у нядзелю, папрасіўшы ў брыгадзіра каня, павезла яе ў райцэнтр, на кірмаш. Прадала хутка. Цану трымала невысокую, бо трэба да цямна дабрацца дадому. Вырачаныя грошы ўжо даўно вырашыла перадаць дачцэ ў Мінск. Там жывецца нялёгка, ды і мужык трапіўся ніякі. І перадаць наважылася доларамі. Шмат пра іх гавораць, толькі на іх і спадзяюцца.

Навучаная таксама суседзямі, знайшла ў кірмашовым гуле і тлуме кіёск банка. Але 50 долараў старой не прадалі: «Толькі па сотні». І тут жа падвярнуўся ўвішны хлопец. «Цётка, пойдзем, я табе прадам». — «А не падманеш?» — «Ды ты што? У нас усё ў норме».

Зайшлі ў зацішны куток. Здавалася, нікога паблізу няма, усе заклапочаны сваімі справамі. Ды толькі абмяняліся грашыма — пабач двое. Калі цётцы растлумачылі, што яна пазбавілася і сваіх грошай, і яшчэ будзе плаціць некалькі мільёнаў штрафу, — яна самлела.

***

І такіх гісторый з любога кірмашу ў заходнебеларускіх гарадках можна расказаць дзесяткі. Калі не сотні. Указ Прэзідэнта аб стабілізацыі фінансавага становішча адным са сваіх пунктаў гаворыць і аб узмацненні барацьбы з незаконнымі валютнымі аперацыямі.

Што гаварыць, людзі, прафесіяй якіх сталі менавіта валютныя аперацыі, купля і перапродаж валют, з'явіліся і ў правінцыі. Так, у Паставах, наколькі змог я даведацца, займалася да апошняга часу гэтай няпростай, але, напэўна, досыць прыбытковай справай група людзей. Але ўсе гэтыя людзі сутыкнуліся з тым, што называецца законам, атрымалі ці атрымаюць належнае. І, безумоўна, прыціхнуць, каб перачакаць «высокую хвалю».

А работа аддзелаў па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, іншых супрацоўнікаў міліцыі працягваецца. Бо існуе наўрадлівейшая глеба для так званых незаконных валютных аперацый. Беларускае заходняе прыгранічча воляю гістарычных абставінаў вельмі моцна знітавана з суседнімі Літвой, Латвіяй, Польшчай, зусім не парваныя да гэтага часу сувязі з Расіяй. Але ж пры ўвядзенні жорсткага кантролю за валютай ніхто чамусьці не паклапаціўся, каб абмен валют, які ва ўмовах гэтага памежжа непазбежны, мог быць свабодным і заўсёды бесперашкодным праз дзяржаўныя структуры.

Лагічна, што дзяржава хоча ўзяць пад строгі кантроль усе валютныя аперацыі на сваёй тэрыторыі. Але лагічным было б і тое, што перад тым, як узмацняць кантроль і рабіць больш строгім пакаранне за незаконныя аперацыі, усе банкаўскія структуры і ў раённых гарадках былі б забяспечаны неабходнай колькасцю ўсёй той валюты, якая мае хаджэнне на гэтай тэрыторыі.

Пакуль што, напрыклад, пастаўскае аддзяленне «Аграпрамбанка» працуе толькі з доларамі і маркамі, аддзяленне «Ашчадбанка—Беларусбанка», праўда, ажыццяўляе аперацыі і з літамі, расійскімі рублямі, але толькі ў тых межах, наколькі забяспечваюцца запасы гэтымі валютамі самім насельніцтвам. А гэтага далёка недастаткова. Што ж да нядзельных кірмашоў, то яны практычна пазбаўлены законнага абслугоўвання ў абмене валюты. Ускладняе сітуацыю і сіндром стодоларавых купюр. Насельніцтва ўпарта не верыць у тое, што абмену іх не будзе. Падагравае гэта нявер'е поўная адсутнасць у вышэйназваных аддзяленнях долараў іншай вартасці.

Яшчэ адзін штрых — розніца курсаў паміж тым жа Мінскам і тутэйшымі аддзяленнямі. Таму і ідзе, будзе ісці зацікаўлены чалавек да валютчыкаў, нягледзячы на самыя строгія меры. А можа і пранясе?

Апошнім часам мы любім звяртацца да вопыту суседзяў. Давайце пераедзем зусім блізкую мяжу. Літва пазбавілася сваіх валютчыкаў даўно і назаўжды. Сёння пункты абмену валюты ёсць у любым гарадку і паселішчы, ну а Вільня проста перапоўнена імі. Толькі на аўтавакзале тры. Прычым у кожным прысутнічае цэлы спіс валют, якія падлягаюць узаемаабмену. Тут не пакрыўджаны ні наш беларускі рубель, ні ўкраінскі карбованец, не гаворачы ўжо пра іншыя знакі. Калі ласка, па курсу, з гарантыяй, любыя сумы і купюры. І ўсё гэта пад кантролем дзяржавы.

Мне здаецца, што ў Заходняй Беларусі з яе блізкай мяжой з суседнімі дзяржавамі, з яе перапляценнем сувязей, традыцый дабіцца хаджэння толькі «сваіх» грошай ужо немагчыма. Усе астатнія можна загнаць у падполле.

Але выкараніць — ніколі. Пакуль што ад сітуацыі дзяржава прайграе. А магла б і выйграваць. І вось тут нельга не задумацца. Я мяркую, што не мог курс на стабілізацыю фінансавага становішча, на ўзмацненне дзяржаўнага кантролю за валютнымі аперацыямі не прадугледжваць адпаведных мераў па выцясненню валютчыкаў цывілізаванымі метадамі — стварэннем ім канкурэнцыі. Але чамусьці ў правінцыі гэтага не адбываецца. Значыць, камусьці выгадна. Каму — высветліць няцяжка.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**
*Віцебская вобласць.*

# «КВАКТУХА» НА ПАДВОРАК ФЕРМЕРА

**Узросшая за апошнія гады колькасць прыватных сялянскіх і фермерскіх гаспадарак паставіла перад айчыннай вытворчасцю нялёгкую задачу: забяспечыць працаўнікоў вёскі адпаведнымі сродкамі механізацыі, рыштункам, іншымі прыладамі для работы на зямлі.**

Да ліку мноства навінак у гэтай галіне далучылася яшчэ адна. Беларускім навукова-даследчым інжынерным цэнтрам (БелНДІЦ) завяршаюцца работы над доследнай партыяй інкубатара для птушкі на 45 яек. Першы ўзор убачыў свет значна раней, але канструкцыйная недасканаласць не дазволіла арганізаваць яго масавую вытворчасць. Акадэміяй навук краіны былі ўнесены некаторыя змены ў канструкцыю, і зараз партыя з 50 доследных інкубатараў праходзіць апошнія выпрабаванні перад паступленнем у продаж. Характэрна, што іх кошт складзе каля 50 долараў у рублёвым эквіваленце, у той час як, напрыклад, аўстрыйскі аналаг абышоўся б спажыўцу ў суму значна большую — каля 800 долараў.

Дарэчы, з краін былога СССР гэтую прадукцыю раней выпускалі толькі ў расійскім горадзе Пяцігорску, але там інкубатары мелі ёмістасць на 150—200 яек, што для невялікай прыватнай гаспадаркі не заўсёды неабходна. Да таго ж, айчынная распрацоўка мае прыстасаванне, з дапамогай якога ўладальнікі інкубатара па ўласным жаданні могуць закладваць або курыныя, або гусіныя яйкі. Мяркуецца, што «механічныя квактухі» паступяць у продаж у сакавіку.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*КРЫМІНАЛ*

# СПА-КУ-СА?

ДАСТАТКОВА ПРАГЛЕДЗЕЦЬ крымінальную хроніку ці пазнаёміцца з адпаведнымі справамі, каб зрабіць пэўныя высновы.

Часта на цяжкія злачынствы, разбой, рабаванне, забойства ідуць маладыя хлопцы, якім яшчэ няма і дваццаці. І гэта робіцца не на п'яную галаву, калі злачынца потым заяўляе, што быў п'яны і нічога не памятае, а свядома. Аперацыя наперад плануецца, прадумваецца і арганізуецца. Праўда, потым маладыя злачынцы пападаюцца (адбіваецца ўсё ж няхватка вопыту), але гэта потым, а напачатку спадзяюцца, што ўсё абыдзецца.

Пятага лютага трое злачынцаў прабраліся ў адзін з дамоў у Брэсце. Але пралічыліся: іх сустрэў гаспадар з ружжом. Выстрал — і зладзеі, прыхапіўшы з сабой параненага сябра, кінуліся наўцёкі. А неўзабаве іх затрымалі ў абласной бальніцы: семнаццацігадоваму хлопцу шротам выбіла вочы.

Але гэта той выпадак, калі акрамя злачынцаў, можна сказаць, ніхто не пацярпеў. У Баранавічах жа адбылася сапраўдная трагедыя.

Ігар Р. быў добра знаёмы з Алегам З. Абодва нарадзіліся ў 1976 г. і нідзе не працавалі. Вырашылі абрабаваць кватэру. Алег быў у гэтай справе навічком, таму аб'ект выбраў больш вопытны Ігар. Ён і прапанаваў абакрасці дом пенсіянеркі Л. Масюкевіч, якая жыла са сваім сынам. З ім быў знаёмы Ігар. Масюкевіч займаўся перагонам аўтамашын, таму змоўшчыкі і вырашылі, што ў доме ёсць грошы.

На аперацыю вырашылі ісці ўтрох. Падключылі Юру П., свайго сябра, але ён хоць і пайшоў на разведку, у апошні момант удзельнічаць у рабаванні адмовіўся. Каб зайсці да Масюкевіча ў дом, нагода была. Ігар пазычыў калісьці 100 долараў і цяпер яны зайшлі быццам бы для таго, каб супакоіць, што грошы будуць вернуты. Але гаспадар, відаць, не вельмі давяраў свайму знаёмаму, бо далей кухні не пусціў. Яны так і не ўбачылі размяшчэння пакояў у доме.

Залезці ў дом вырашылі вечарам. Выпілі гарэлкі разам з айчымам Алега і каля дваццаці двух гадзін рушылі да дома Масюкевічаў. Ішлі не з пустымі рукамі — захапілі кухонныя нажы. У вокнах святла не было, але вырашылі пазваніць, праверыць. Ніхто не адгукнуўся. Тым не меней, вырашылі, што яшчэ ранавата, і пайшлі блукаць па горадзе, а апоўначы вярнуліся назад. Зноў пазванілі. Ціха. Дасталі на кухні акно і залезлі. У доме было цёмна і спакойна. Ігар пачаў шукаць у зале, а Алег прайшоў у спальню. Тут ён і ўбачыў жанчыну, якая ляжала на ложку. Хутчэй за ўсё гаспадыня моцна спала і не чула званка, бо толькі цяпер, убачыўшы чужога ў пакоі, ўсхапілася. Яна не крычала, магчыма, спрасоння нічога не магла зразумець, альбо ад страху страціла голас. Алег выйшаў у залу, а ў спальню зайшоў Ігар. Ён і ўдарыў жанчыну нажом у грудзі. Пасля ўдару яна схапіла Ігара за левую руку і пачала крычаць. Ён нанёс яшчэ адзін, вельмі моцны ўдар. Жанчына адпусціла руку. Ігар кінуў нож і вярнуўся ў залу, а Алег пайшоў у спальню. Гаспадыня стаяла на каленях і крычала.

Вось тут следчыя і высвятляюць, чый удар быў смяротным. Загінула яна ад рук Ігара, ці Алег дабіў яе. Як бы там ні было, але крыкі ў спальні сціхлі.

Уключылі святло і пачалі шукаць грошы. Знайшлі ружжо з патронамі, а грошы на вочы не траплялііся. І калі пошукі былі ў самым разгары, у дзверы пазванілі. Крыху счакаўшы, выглянулі ў акно. Метраў за дзесяць ад дома стаяў сын забітай і набіраў нумар па радыётэлефоне. Вырашылі ў яго выстраліць праз фортку. На сваё шчасце, хлопец адышоў ад дому.

Рабаўнікоў ахапіла паніка. Выскачылі праз акно з хаты і кінуліся ўцякаць. Пакуль беглі, Алег паўтараў: «Толькі б выжыла». Ружжо закінулі на гаражы, а нажы кінулі каля лазні.

На наступны дзень Алег паказаў 1200 долараў, якія знайшоў у доме. Забойцы падзялілі долары паміж сабой. Купілі курткі, штаны і абутак, а сваю вопратку занеслі на захоўванне знаёмай. Пачалі замятаць сляды. Напачатку хацелі падацца ў Грузію, але перадумалі і паехалі ў Мінск, а затым у Маскву. Долары хутка скончыліся і прыйшлося вярнуцца назад. Тут яны і задумалі даць паказанні. Забойцы прыйшлі ў міліцыю. Зараз следства правярае паказанні, збірае доказы.

***

Жаданне зарабіць лёгкія, а дакладней хуткія грошы, штурхае маладых людзей на злачынства. Спакуса разбагацець імгненна перашкаджае глядзець на жыццё рэальна. Гэтаму ў пэўнай меры спрыяюць і рэаліі нашага жыцця. Адбылося расслаенне грамадства. Адзін падлетак ужо мае іншамарку, а другі глядзіць на гэта з зайздрасцю. А тут шматлікія паліцэйскія і дэтэктыўныя фільмы паказваюць, як можна здабыць грошы. Хутка, у адзін прыём.

Апошні факт. Сярод белага дня ў ашчадную касу на ўскраіне Баранавіч заскочылі двое хлопцаў у масках. «Грошы на стол!» — крыкнуў адзін з іх. Ім ніхто не перашкаджаў, але не хапіла вытрымкі. Выстраліўшы ў столь, кінуліся з пустой сумкай на вуліцу і зніклі на аўтамабілі. Чым не эпізод з амерыканскага фільма?

Безумоўна, далёка не ўсе маладыя людзі ступаюць на «слізкую дарогу». Хтосьці «круціцца» ў камерцыі, а хтосьці прадае газеты ў электрычках. Я ўжо не кажу пра тых, хто вучыцца. Але пры ўсіх зменах, якія адбыліся за апошнія гады ў нашым грамадстве, трэба прызнаць, што сёння моладзь падвяргаецца значна большаму псіхалагічнаму ціску, чым раней. Цісне жыццё.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# АРМІЯ ПАЧЫНАЕЦЦА З ВАЕНКАМАТА

Стану мабілізацыйнай, улікова-прызыўной работы, вынікам прайшоўшага прызыву на тэрміновую ваенную службу быў прысвечаны збор работнікаў ваенных камісарыятаў Рэспублікі Беларусь. На ім выступіў міністр абароны генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў. Ён асабліва падкрэсліў, што ваенкаматы, іх работнікі — гэта твар Узброеных Сіл. Ад іх залежыць тое, які вобраз арміі фарміруецца ў людзей у гарадах і раёнах рэспублікі.

На жаль, вынікі выніковай праверкі, праведзенай восенню, сведчаць аб сур'ёзных недахопах у рабоце шэрага раённых і гарадскіх ваенкаматаў. Некаторыя з іх атрымалі нездавальняючыя адзнакі. Гэта сведчыць аб зніжэнні ўзроўню прафесіянальнай падрыхтоўкі, воінскай дысцыпліны, аб безадказнасці.

Ёсць факты, калі работнікі ваенкаматаў злоўжывалі сваім службовым становішчам — незаконна выдавалі пасведчанні ўдзельнікаў вайны ў Афганістане, ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, давалі адтэрміноўкі ад прызыву. Ніводны з такіх абуральных выпадкаў не застаўся без увагі. Вінаватыя былі сур'ёзна пакараны, а некаторыя звольнены з радоў Узброеных Сіл.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ,**
**прэс-служба Міністэрства абароны.**



**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

*ПАСЛЯ ПРАВЕРКІ СКАРГІ*

# ХОЧАШ ПАМЫЦЦА — ІДЗІ НА ФЕРМУ

***У пісьме, што было змешчана 1 снежня мінулага года, з крыўдай апавядалася: жыхары в. Кавалічы Старадарожскага раёна засталіся без клуба, бібліятэкі, радыё і нават лазні. Што і казаць, «вясёлае» жыццё ў вяскоўцаў.***

**Намеснік старшыні раённага выканаўчага камітэта А. МІХАЙЛАЎ** настроены больш аптымістычна, аб чым і сведчыць яго адказ рэдакцыі:

— На самай справе, у вёсцы Кавалічы ў канцы 1993 года згарэў клуб. Кніжны фонд практычна не сапсаваны. Зараз жыхары карыстаюцца бібліятэкай, размешчанай у прыбудове да дома яе загадчыцы, якая працуе на 0,5 стаўкі. Іншай магчымасці размясціць кніжны фонд зараз у вёсцы няма. На тэрыторыі калгаса ў суседняй вёсцы Новыя Фалічы ёсць сельскі клуб, дзе моладзь бавіць вольны час.

Сельскае насельніцтва раёна паступова пераходзіць на карыстанне замест радыёкропак прыёмнікамі «Гародня». Яны выдаюцца жыхарам за папярэднюю плату ці ў кошт будучай абанентнай платы. Калгас «Герой працы», у які ўваходзіць вёска Кавалічы, не мае сродкаў на набыццё вадкага паліва для абагрэву лазні, і вяскоўцы мыюцца ў душавой на калгаснай ферме.

# ЧАМУ СУД НЕ ПРЫЗНАЎ ЗАВЯШЧАННЯ?

***У свой час А. Сысой даглядала састарэлую жыхарку в. Касарычы Глускага раёна Н. Бабкову. За аказаныя паслугі тая паабяцала памочніцы сваё домаўладанне. Аднак на яго знайшліся больш блізкія нашчадкі.***

***Гэта прызнаў і раённы суд, у якім разглядалася справа. З такім рашэннем заяўніца не пагадзілася.***

**Адказ, што даслаў у рэдакцыю старшыня Магілёўскага абласнога суда В. ПАНЯНЮК,** думаецца, будзе цікавым перш за ўсё тым нашым чытачам, у якіх можа ўзнікнуць аналагічная жыццёвая сітуацыя:

— Гэта скарга на рашэнне суда Глускага раёна, якім прызнана несапраўдным завяшчанне, дадзенае Н. Бабковай грамадзянцы А. Сысой на домаўладанне, разгледжана і пакінута без задавальнення па наступных падставах. Згодна з арт. 529 ГК Рэспублікі Беларусь кожны грамадзянін можа пакінуць па завяшчанню ўсю сваю маёмасць або частку яе аднаму ці некалькім асобам, як уваходзячым, так і не ўваходзячым у кола нашчадкаў па закону.

Судом устаноўлена, што ў в. Касарычы пражываў П. Якубенка, які з'яўляўся галавой і апошнім членам калгаснага двара. Паколькі ён быў цяжка хворы, за ім даглядала Н. Бабкова, але яна не з'яўлялася членам гэтага двара, а мела сваю асабістую гаспадарку, якая адносілася да катэгорыі ўладанняў служачых.

Права на маёмасць калгаснага двара жанчына не набыла, а гаспадар не пакінуў ёй ніякага завяшчання. Пасля смерці П. Якубенкі ўсю маёмасць атрымалі яго дзеці, нашчадкі па закону. Так што Н. Бабкова не мела права ўласнасці на гэту маёмасць. Не магла яе завяшчаць і А. Сысой.

Пры такіх абставінах суд правільна прызнаў несапраўдным завяшчанне. А рашэнне яго з'яўляецца законным і абгрунтаваным.

# Трашчаць над вёскай МАРАЗЫ

**У Нарачанскім краі маразы. Яны паўсюль на Беларусі, але тутэйшым жыхарам здаецца, што іх сёлета прырода выпрабоўвае асабліва. Ды і сапраўды, як зафіксавалі на Лынтупскай метэастанцыі, пачатак лютага быў у гэтых мясцінах рэкордна халодным.**
**Так, 8 лютага мароз дасягнуў 34 градусаў, халодна і другая дэкада апошняга зімовага месяца.**

**Калі на двары за трыццаць, то і ў гараджаніна ўзнікаюць пэўныя праблемы ды нязручнасці.**
**Але асабліва нялёгка даводзіцца вяскоўцу, бо ён застаецца сам-насам з прыродаю, пазбаўлены дапамогі камунальных службаў, як бы адмоўна іх работа ні ацэньвалася.**

Вёска Лотва ў Мядзельскім раёне не адносіцца да ліку надта аддаленых — усяго нейкі дзесятак кіламетраў да райцэнтра. Гэта цэнтр аднайменнага сельскага Савета і калгаса «40 год Кастрычніка». Але цяперашняя сітуацыя робіць і такія адлегласці цяжкапераадольнымі. З Мядзела ў Лотву ўжо не дабярэшся аўтобусам кожны дзень. Ходзіць ён праз дзень, ды і маршрут пралягае праз шэсць вёсак сельсавета. А яшчэ паўтара дзесятка застаюцца зусім без рэгулярнай сувязі з цэнтральнай сядзібай, раёнам. Увогуле, такіх, не зусім радасных прымет новага часу, у вёсцы нямала. Не працуюць сталовая, дзіцячы садок. Раніцою над шматкватэрнымі дамамі ў цэнтры вёскі, якія разам з канторай калгаса, школай, клубам утваралі ў свой час астравок новага жыцця паміж старымі вясковымі стрэхамі, уздымаюцца ўгору шматлікія пячныя дымы. Пячныя дымы над шматкватэрнымі дамамі! Так, гэта таксама прымета новага часу. Дзейнічала ў вёсцы кацельня, якая абагравала і гэтыя дамы, і школу, і клуб, і памяшканні канторы калгаса, сельскага Савета. Мінулую зіму кацельня ўжо ледзь ліпела. Цеплілі яе дрывамі, разбіралі для гэтага ўсе старыя пабудовы калгаса. А гэтым летам было прынята вымушанае рашэнне аб яе закрыцці. Грошай на паліва няма.

У школе вырашана было ўсталяваць новыя сучасныя катлы электрычнага ацяплення. Таксама не па чыёйсьці віне, а з прычыны вечнай нашай няхваткі то аднаго, то другога справу гэту зацягнулі. Мерзлі і вучні, і настаўнікі. Але на пачатку гэтага года ўрэшце стала ў школе і цёпла, і чыста. Клуб так і не ацяпляецца, так што ўсякае жыццё тут да цяпла прыпынена. Сапраўды, калі на навагоднім «агеньчыку» ліманад у шклянцы замярзае — не да весялосці.

Неяк пры дапамозе электраабагравальнікаў падтрымліваюць плюсавую тэмпературу ў іншых грамадскіх пабудовах. Ну а жыхары шматкватэрных дамоў усталявалі летам у сваіх кватэрах печы. Нехта звычайныя, нехта закальцаваў на іх кватэрныя батарэі паравога ацяплення. А ацяпляюцца ўсе дрывамі. Пахадзіў я па гэтых кватэрах. Вядома, некаторыя гаспадары змаглі зрабіць печы даволі прыстойныя, нават прыгожыя. Але ўсё роўна за суткі трэба спаліць два-тры мяхі дроў, потым вынесці попел. Гэта і дадатковыя праблемы, і дадатковае смецце. Але іншага выйсця няма.

Ды, уласна кажучы, на вёсцы печ была і надоўга яшчэ застанецца галоўнай абагравальніцай і сяброўкай у такія маразы. Былі б толькі дровы. Дроў сёлета, наколькі я мог зразумець з размоў з людзьмі, хапае. Па-першае, вельмі дарэчы была дапамога маламаёмным. Яе па сельскім Савеце ў мінулым годзе выплацілі 32 мільёны рублёў (насельніцтва ў Савеце больш як шэсцьсот чалавек, з іх больш за дзвесце пенсіянераў, 15 чалавек стаіць на сацыяльным абслугоўванні). У асноўным траціліся пенсіянерамі гэтыя грошы менавіта на набыццё дроў. Праўленне калгаса выпісвае калгаснікам дровы са свайго лесу. Ён у гаспадарцы займае паўтары тысячы гектараў. Але ў асноўным гэта хмызнякі, драбналессе, тое, што і ідзе звычайна на дровы.

Лотвінскі калгас, носячы вельмі гучную назву, перажывае сёння далёка не лепшыя часы. Некалі гэта была спецыялізаваная гаспадарка — трымалі каля трох тысяч авечак. Калі ж авечкагадоўля стала нерэнтабельнай, іх звялі. І засталося толькі каля тысячы галоў буйной рагатай жывёлы, з іх трыста кароў, невялікая свінаферма... 6 апошніх гадоў калгас не купіў ніводнага трактара. Да апошняга часу заработная плата не выплачвалася месяцамі.

Год назад узначаліў калгас новы старшыня Мікалай Юркевіч. Нельга сказаць, што справы палепшыліся, але ж людзі ўжо атрымалі заработную плату за снежань, праўда, не ўсе. Але вось разлічыцца мясакамбінат з гаспадаркай, тады, магчыма, і за студзень заработная плата будзе выплачана. Але небагатая яна ў зімовы час, таму ў калгасе стараюцца замяняць яе натурплатай. Шмат раздалі людзям зерня па выніках работы ў мінулым годзе, не толькі механізатарам, але і жывёлаводам, тым, хто вырошчваў буракі. Можна выпісаць са свінафермы мяса ў лік заработнай платы, па прымальнай цане, зразумела.

І ўсё-такі зімоўка ідзе няпроста. Травяністых кармоў назапасілі дастаткова, а вось з зернем цяжка. Невысокай была ўраджайнасць з-за адсутнасці ўгнаенняў. Ды ў такія маразы на старых фермах даводзіцца нямала часу і сіл траціць на тое, каб хоць ваду нагрэць. Але старшыня пераконвае, што пагалоўе будзе захавана, мінулагодняга становішча не дапусцяць. А тады вясной страцілі нямала кароў.

Закідала снегам Лотву і іншыя вёскі Савета. Толькі па дымах над комінамі і адзначаеш, што тлее ў заснежаных вёсках жыццё. Сцяжын-жа па вёсках пратаптана няшмат. Жывуць тут у асноўным пенсіянеры. Ды што там, на ўвесь сельсавет дзве крамы. Па астатніх вёсках ездзяць два разы на тыдзень аўталаўкі. Хлеб, крупы, гарэлка. Дарэчы, і сюды ўжо дабіраюцца сучасныя «карабейнікі», якія прапануюць вяскоўцам танную расійскую гарэлку. І людзі бяруць.

Як бы там ні ціснулі маразы, але сонца ўжо павярнула на вясну. Значыць, трэба думаць аб тым, што неўзабаве і соткі апрацоўваць, і гной вазіць. Яшчэ адна цікавая адметнасць у Лотве і наваколлі. Ніхто з вяскоўцаў так і не выкупіў перададзеныя ім гектары зямлі. Ці прыкладу няма, ці такі тут менталітэт селяніна? А вось затое чэкавая прыватызацыя вельмі зацікавіла вяскоўцаў. Каля 90 працэнтаў іх ужо прыдбала гэтыя, магчыма, каштоўныя паперы.

Вузкія сцежкі, пратаптаныя людзьмі па сумётах на вёсцы. Расчышчаная, але яшчэ заледзянелая дарога ад вёскі. І ўжо зусім чыстая стужка асфальту. Бліжэй да цывілізацыі, бліжэй да вясны.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**
*Мінская вобласць.*

